**Ніва**

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (758) БЕЛАСТОК 6 ВЕРАСНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

# ЯК БЫЦЬ, КАБ ШЧАСЛІВА ЖЫЦЬ?

Яго рэкамендавалі мне яшчэ ў Гарадоцкай ГРН.

— Гэта малады гаспадар, — гаварыла таксама маладая ды прыгожая працаўніца, — а вынікі ў яго, о, яшчэ якія! І актывіст ён вясковы, старшыня сельскагаспадарчага гуртка.

«Хіба закахалася дзяўчына, калі аж так расхвальвае?» — падумаў я, а пасля пераканаўся, што думаў безасноўна.

— Вы яго вельмі лёгка адшукаеце. Ён пабудаваў сабе мураваную хату. Яна самая вялікая ў вёсцы, яшчэ не зусім закончана, — дабавіла прыгажуня з Гарадоцкага грамадаўскага бюро.

Ды паплёўся я ў вёску Валілы. Ішоў вуліцай, патанаючай у зяляніне дрэў, і прыглядаўся да тутэйшых будынкаў. Мураванак — старых, хіба яшчэ даваенных, і навейшых — тут даволі многа. Якая, думаў, сярод іх прыналежыць маладому выдатніку сялянскай прафесіі, які на дадатак не цураецца грамадскай працы? Неўзабаве знайшоў яе. Сапраўды, памыліцца немагчыма было. І не таму, што над кроквамі яшчэ красаваўся завяршальны букет зялёнай мяцёлкі. Мураванка Хлябічаў выдзялялася сярод сваіх суседак нейкім невясковым маштабам.

Адразу ўзнікла пытанне: адкуль яе ўласнік узяў аж столькі грошай?

— Асталіся мы сіратамі, — расказвае старэйшая жанчына, маці маладога гаспадара. — Муж мой нечакана памёр. Штосьці прычапілася да яго, заслаб, выклікалі «пагатоўе», а назад прывязлі яго мы ўжо ў труне. Дзеці раз'ехаліся па гарадах шукаць шчасця: дачка — у Беласток, адзін сын аж у Вроцлаў — там, працуючы, вучыўся, зараз ён інжынерам. І гэты сын, Федзя, што цяпер гаспадарку пераняў, таксама прабаваў шчасця на розных будовах. Тады цяжка нам жылося. І вось Федзя рашыўся застацца ў вёсцы, узяўся за гаспадарку.

На панадворак заехаў балонавы воз. Конь зраўнаўся з трактарам, які стаяў побач. З возу саскочыў русавалосы юнак і не вельмі зычлівым позіркам прывітаў мяне.

— Не маглі б вы пачакаць да вечара? — папрасіў. — Бачыце, мушу яшчэ вывезці адзін воз гною, а затым паехаць у суседнюю вёску да жонкі.

— Да жонкі ў суседнюю вёску? —

Працяг на стар. 4



*Над рэчкай Нарвай* *Фота З. Зарэмба*

# Солі вада...

Народны вопыт, які накапляўся на працягу стагоддзяў, прывёў людзей да вываду, што *«не бяда, калі ёсць хлеб, соль і вада...»*

Хлеба нам хапае, солі таксама маем удосталь. А вады?

Здаецца, няма асноў, каб скардзіцца на яе недахоп. Асабліва ў гэтым годзе, калі з многіх куткоў ваяводства і краіны наплываюць трывожныя весткі аб небяспечных паводках, калі дождж усё яшчэ не дазваляе сялянам справіцца з уборкай збожжа.

А ўсё ж вады не хапае — той вады, якая ў штодзённым жыцці з'яўляецца, бадай што, асноўнай сыравінай для сельскагаспадарчай прадукцыі. Усе расліны па сваім хімічным саставе найбольш менавіта маюць вады і вугалю. Каб атрымаць ад каровы 10—15 літраў малака, неабходна даставіць ёй звыш 200 літраў вады. Так гавораць спецыялісты. Яны таксама ўстанавілі на аснове доследаў, што ў гаспадароў Беластоцкага ваяводства замест 1000 літраў вады выкарыстоўваецца ў дзень нейкіх 300 літраў. Амаль 70 тысяч гаспадароў не мае ўласных калодзежаў, а толькі нямнога больш за 2 працэнты вясковага насельніцтва Беласточчыны карыстаецца водаправодамі, амаль 48 тысяч гаспадароў адчувае часовы недахоп вады. Гэта звыш чвэрці ўсіх гаспадароў Беластоцкага ваяводства. Каб уявіць сабе становішча ў паасобных паветах, калі ласка, прааналізуйце наступныя паказальнікі:

Працяг на стар. 4

*З сесіі гайнаўскай МРН*

# У КЛОПАТАХ АБ ЛАДЗЕ І ПАРАДКУ

Галоўным праблемам ладу, парадку і грамадскай бяспекі была прысвечана апошняя сесія гарадской рады нарадовай у Гайнаўцы. Ад папярэдняй сесіі, прысвечанай гэтым справам, мінула ўжо больш трох год. Таму менавіта рада занялася вельмі дакладна характэрнымі з'явамі з гэтай галіны, іх дынамікай і вынікамі.

А трэба адразу адзначыць, што горад Гайнаўка займае не апошняе месца ў агульнапавятовай статыстыцы адмоўных з'яў у галіне парадку і публічнай бяспекі, а ў некаторых з іх займае нават першыя, сумныя месцы. У 1969 годзе запісана 269 крымінальных і гаспадарчых злачынстваў, а ў першым паўгоддзі 1970 г. — 123. У тым ліку найбольш злачынстваў было вельмі небяспечных для грамадства — разбоі, уламанні, крадзеж грамадскага і прыватнага дабра. Таму радныя МРН і ўлады горада абдумваюць і абмяркоўваюць, як ліквідаваць ці хоць бы значна зменшыць публічную пагрозу ў яе розных постацях.

Немагчыма ў адным артыкуле змясціць усю рознабаковасць і багацтва гэтай праблематыкі. Таму хачу звярнуць увагу на некалькі важнейшых спраў. Былі яны дакладна пададзены ў выступленні павятовага каменданта МО маёра Станіслава Пятровіча. У дыскусіі, у якой удзельнічала 13 чалавек, выплылі яшчэ новыя элементы ў ацэнцы сітуацыі ў гэтай галіне.

Не прытрымліваючыся чарговасці па важнасці розных прадыскутаваных з'яў, пачнем ад спраў моладзі, і ў першую чаргу, г. зв. цяжкай, грамадска не прыстасаванай. У выніку некалькігадовай працы МО, рад нарадовых і розных грамадскіх арганізацый гайнаўскія дзеячы змаглі нядрэнна пазнаць гэтую частку моладзі з боку яе грамадскага паходжання, месцажыхарства, умоў жыцця і г.д.

Колькасна гэта не такая ўжо вялікая праблема. Датычыць яна толькі 61 асобы непаўналетніх. Аднак характар і ўсё больш узрастаючы ўдзел дзяцей у розных крымінальных і хуліганскіх злачынствах — гэта ўжо вельмі важная грамадская справа. 30% агульнай колькасці злачынцаў у горадзе — гэта непаўналетнія. У сярэднім за перыяд апошніх трох гадоў — непаўналетнія зрабілі 60% уламанняў у прыватныя памяшканні, 52% —

Працяг на стар. 4



*Беласток, вул. Астроўскага.* *Фота П. Семянюк*

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### СПРАВЫ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

У Будапешце адбылася нарада міністраў сельскай гаспадаркі краін членаў Савета эканамічнай узаемадапамогі. Польшчу на нарадзе прадстаўляў мінстр сельскай гаспадаркі праф. др Ю. Акунеўскі.

У часе нарады былі абсуджаны актуальныя праблемы і перспектывы развіцця сельскай гаспадаркі ў краінах Савета эканамічнай узаемадапамогі ў бліжэйшай пяцігодцы.

Атмасферычныя ўмовы ў гэтым годзе былі вельмі некарыснымі для сельскай гаспадаркі ў большасці краін СЭУ. Гэта стала прычынай, як сцвярджалася на нарадзе, пэўных загамаванняў у планавым развіцці жывёлагадоўлі. У некаторых краінах стыхійныя няшчасці, а асабліва паводкі, некарысна адбіліся на выніках пасеваў.

Аднак прынятыя крокі для аблягчэння гэтых некарысных з'яў у большасці краін прыносяць добрыя вынікі асабліва ў паўторным павелічэнні жывёлагадоўлі.

### ЗАГІНУЛІ Ў В'ЕТНАМЕ

Амерыканскае ваеннае камандаванне ў Сайгоне апублікавала чарговае паведамленне аб стратах войск ЗША ў Паўднёвым В'етнаме. У мінулым тыдні загінулі на ваенных палях В'етнама 52 амерыканскія ваенныя, а 358 было паранена.

Паводле афіцыяльных даных, у в'етнамскай вайне дагэтуль загінула 43.418 амерыканцаў, а 287.216 было паранена.

### ПАЛІТЫЧНАЕ ЗАБОЙСТВА

Расісты амерыканскага поўдня зрабілі яшчэ адно злачынства. Ва Уэст-Пойнце (штат Місісіпі) яны забілі барацьбіта за грамадзянскія правы неграў і сацыяльную справядлівасць Джоні Томаса.

Томас прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі выбарчай кампаніі негра Э. Фафінгтана, які дабіваецца вылучэння сваёй кандыдатуры на пасаду мэра Уэст-Пойнта. Адно ўпамінанне імя Фафінгтана выклікала шалёную злосць мясцовых расістаў.

Па падазрэнню ў забойстве Томаса арыштаван адзін з белых жыхароў Уэст-Пойнта. Аднак паліцыя адмаўляецца паведаміць яго імя, спасылаючыся на тое, што яго віна пакуль «канчаткова не ўстаноўлена».

### АБАРАНЯЮЦЬ ПРАВЫ

Кансерватыўны ўрад рыхтуецца ўнесці ў парламент заканадаўства, якое мае на мэце абмежаваць правы прафсаюзаў і асабліва аслабіць дзейнасць забастовак як зброі барацьбы працоўных. У той жа час урад робіць націск на кіраўнікоў нацыяналізаваных галін прамысловасці, дабіваючыся, каб яны рашуча адхілялі патрабаванні аб павышэнні заработнай платы.

Прагрэсіўная арганізацыя — камітэт сувязі ў абарону рабочых усіх галін прамысловасці Англіі заклікала Брытанскі кангрэс трэд-юніёнаў «пачаць і ўзначаліць барацьбу супраць замаху на прафсаюзную дэмакратыю».

А. К.



## БССР

### КАНФЕРЭНЦЫІ

У Мінску адбылася XIV Міжнародная канферэнцыя эканамістаў-аграрнікаў. Са зваротам наконт адкрыцця канферэнцыі выступіў прэзідэнт міжнароднай асацыяцыі эканамістаў сельскай гаспадаркі, прафесар Нільс Вестэрмарк з Фінляндыі. Ён падкрэсліў, што мінская сустрэча — вялікая падзея для ўсіх эканамістаў-аграрнікаў, і яна будзе адзначацца ў гісторыі асацыяцыі як яе першы форум, праведзены ў сацыялістычнай краіне.

Прафесар Вестэрмарк сказаў у заканчэнні сваёй прамовы:

— Гэта не першая мая паездка ў Беларусь, і, значыць, я мог пераканацца на практыцы, што тут жыве працавіты, прагрэсіўны і гасцінны народ.

Ад імя ўрада Беларусі прысутных вітаў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР У. Лабанок

### ПАСЯДЖЭННЕ

У ЦК Кампартыі Беларусі адбылося чарговае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенню святкавання 50-годдзя камсамола Беларусі. Яно праходзіла пад старшынствам сакратара ЦК Ф. Сурганава, які ўзначальвае арганізацыйны камітэт.

Абмеркаваны пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай да юбілею, разгледжаны план правядзення ў Мінску заключнага этапа Усебеларускага фестывалю моладзі.

### ПАСТАНОВУ

Прэзідыум Беларускага савета прафесіянальных саюзаў, бюро ЦК камсамола Беларусі, калегіі міністэрства асветы і Дзяржаўнага Камітэта Савета Міністраў БССР па прафесіянальнай тэхнічнай адукацыі прынялі сумесную пастанову — «Аб прафесіянальнай арыентацыі, вучнёўскай моладзі».

Створаны рэспубліканскі міжведамасны савет па прафесіянальнай арыентацыі, які будзе каардынаваць намаганні розных арганізацый і ведамстваў у правядзенні гэтай работы.

### ПЕРШЫ

Выйшаў першы нумар часопіса «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Знаўцы старажытнага мастацтва беларускага народа даўно чакалі з'яўлення гэтага выдання.

Ён пазнаёміць чытачоў з выдатнымі творамі архітэктуры, помнікамі рэвалюцыйнага руху, гісторыяй фабрык і заводаў, гарадоў, развіццём тэатральнага, музычнага і іншых мастацтваў, з прывабнасцямі цудоўных закуткаў Беларусі і г.д.

Можна толькі дадаць, што гэты беларускі часопіс вельмі спатрэбіўся б нашым школам і бібліятэкам на Беласточчыне.

### МОВУ

У рэдакцыі беларускай «Настаўніцкай газеты» адбылася сустрэча, у якой прынялі ўдзел група аўтараў падручнікаў, работнікі Міністэрства асветы, Гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў.

Матэрыял з сустрэчы «Настаўніцкая газета» апублікавала пад загалоўкам — «Не граматыку вывучаць — мову». Асаблівы акцэнт зроблены на самастойнасць працы вучня. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### ЗАДАННІ АСВЕТЫ

2 верасня г.г. засела на школьных лаўках 7,5-мільённая армія вучняў. Аб новых заданнях, якія ставяцца перад настаўнікамі і ўсёй асветна-выхаваўчай сістэмай, выказаўся міністр асветы і вышэйшай адукацыі Г. Яблонскі.

— Асноўныя заданні школы і настаўніка не змяняюцца з году ў год, — сказаў міністр. — Вынікаюць яны з цэласці ясна накрэсленай партыяй доўгатэрміновай асветнай палітыкі нашай дзяржвы. Аднак можна і трэба гаварыць аб пастаянным удасканальванні форм і метадаў працы, каб гэтыя заданні выконваць штораз паўней і лепей.

На першае месца міністр высунуў справу далейшага ўмацавання аднолітнага выхаваўчага фронту, у якім школа з'яўляецца толькі адным звяном, але звяном неабходным і асаблівай вагі. Супрацоўніцтва школы з бацькамі, грамадскімі і прафсаюзнымі арганізацыямі, прадпрыемствамі і адміністрацыйнымі ўладамі хоць і існуе, але тут многа яшчэ можна зрабіць.

Новым элементам у павышэнні ўзроўню выхаваўчай працы школы павінна быць звяртанне большай увагі на самавыхаванне моладзі. Гэтаму павінны служыць нядаўна выданыя правілы аб месцы і ролі маладзёжных арганізацый у школах.

Асаблівае значэнне мае 1970/71 год у агульнаадукацыйных ліцэях. Упершыню пачынаюць дзейнічаць чацвёртыя класы, а з гэтым звязана ўвядзенне факультатыўных заняткаў і заняткаў па прафесіянальнай падрыхтоўцы.

У новым навучальным годзе пачнуць таксама дзейнічаць першыя класы г.зв. спрафіляваныя. 10% аддзелаў першых класаў ліцэяў у краіне будзе мець матэматычна-фізічны характар. Што датычыць асветы для дарослых, дык у Варшаве, Новай Гуце і Остраве Вельнапольскім пачнуць дзейнічаць у новым навучальным годзе як самастойныя адзінкі 3-гадовыя агульнаадукацыйныя ліцэі для абсальвентаў асноўных прафесіянальных школ (СШЗ).

### ТЭРМАЯДЗЕРНАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

У Польшчы пачалася падрыхтоўка да пабудовы ў будучыні першай польскай тэрмаядзернай электрастанцыі.

Прадбачваецца, што рэактар для электрастанцыі будзе праўдападобна закуплены ў Савецкім Саюзе, а іншае абсталяванне будзе краёвай прадукцыі.

Электрастанцыя будзе праўдападобна пабудавана ў адным з паўночных ваяводстваў. Будзе яна патрабаваць велізарнай колькасці вады: адна гадзіна працы паглыне каля 500 цыстэрнаў вады.

### ГАЗЕТЫ І ЧАСОПІСЫ

На працягу апошніх 20-ці год колькасць выдаваных у Польшчы часопісаў павялічылася ў 4 разы. 54 газеты, якія выходзяць у нашай краіне, маюць аднаразовы тыраж 8,2 мільёна экземпляраў. Найбольш чытачоў (каля 600 тыс. экз.) мае «Трыбуна роботніча», а з тыднёвікаў, якіх выходзіць 123, найбольш пачытнай з'яўляецца «Пшыяцюлка» (1873 тыс. экз.) (ак)



## ВАЯВОДСТВА

### НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

Новы навучальны год пачаўся. Сёлета 2 верасня ў падставовыя школы пайшло 206500 дзяўчынак і хлопцаў, гэта каля 5 тыс. менш, чым у мінулым годзе. У сярэднія і прафесіянальныя школы пайшло 57705 вучняў — каля 10 тыс. больш, чым у мінулым годзе. Першы раз сёлета ў школу пайшло 2360 сямігодкаў.

У гэтым годзе будзе аддадзена ў карыстанне 21 новы будынак для падставовых школ, будынак II Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку, будынак Школы механізацыі сельскай гаспадаркі ў Сейнах і будынкі двух прадшколляў — у Харошчы і Высока-Мазавецку. У тым ліку 9 школ будуюцца грамадскім чынам.

З пачаткам новага навучальнага года ў агульнаадукацыйных ліцэях нашага ваяводства ўведзена спецыялізацыя: матэматычна-фізічны напрамак будзе ў ліцэях Беластока, Бельска, Ломжы, Элка, Сувалак і іншых. У Сакольскім ліцэі будзе спецыялізацыя рускай філалогіі.

### ДЗЕНЬ ЭНЕРГЕТЫКА

У мінулую суботу адбылася ў Беластоцкім тэатры ўрачыстасць у сувязі з Днём энергетыка. Сёлета гэты дзень святкуецца асабліва ўрачыста, бо прафсаюз энергетыкаў адзначае сваё 50-годдзе.

З дакладам на ўрачыстым вечары выступіў галоўны інжынер Энергетычнага прадпрыемства Б. Сюда. Падкрэсліўшы вялікія дасягненні польскай энергетыкі за гады народнай улады, дакладчык звярнуў увагу слухачоў на канкрэтныя заданні надыходзячага асенне-зімовага перыяду — найцяжэйшай пары года для энергетыкаў.

На ўрачыстасці было праведзена падсумаванне спаборніцтва за I квартал. I месца і пераходны сцяг заваявалі ўжо другі раз энергетыкі Бельска. Два другія месцы былі прызнаны Лапам і Саколцы, а III — Беластоку.

### ВЫНІКІ КОНКУРСУ

Зроблена ўжо падсумаванне конкурсу «Праца грамадскім чынам ў гонар 25-годдзя ПНР». У нашым ваяводстве ў гэтым конкурсе ўдзельнічала больш 1 мільёна людзей. Агульны кошт зробленай працы ацэньваецца на 308 млн. зл. У час конкурсу было пабудавана 178 км цвёрдых дарог, 4 масты даўжынёй каля 50 метраў, 56 школьных пакояў, 6 спартыўных пляцовак і купальных басейнаў.

Першае месца і ўзнагароду (0,5 мільёна злотых) атрымалі грамадская рада ў Дзядкавіцах (Сямяціцкі павет) і ГРН Леман (Кольненскі павет). Узнагароды атрымалі таксама сярод гарадоў — Голдап і Райгруд, а сярод вёсак — Дубічы Царкоўныя (Гайнаўскі павет) і Шчучын (Граеўскі павет). Узнагароды для паветаў атрымалі Сэйненскі, Сямяціцкі, Замброўскі і Гайнаўскі паветы. (яч)

ГП БГКТ і рэдакцыя «Нівы» выражае глыбокае спачуванне кіраўніку культурна-асветнага аддзела ГП Сяргею Лукашчуку з прычыны смерці бацькі.




**NIEDZIELA — 6.IX.70**

8.00 Program dnia; 8.05 Przypominamy, radzimy; 8.15 „Czterej pancerni i pies"; 9.55 Centralne Dożynki — transmisja z Warszawy; ok. 12.45 Dziennik; 13.00 Spotkania z przyrodą; 13.25 PKF; 14.00 Finał indywidualnych mistrzostw świata na żużlu; 16.40 „Spotkanie z pisarzem"; 17.10 Teatr Telewizji na Świecie „Gość weselny". Widowisko Telewizji USA; 18.40 „Kontrasty i nastroje"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Wojenna miłość" film fab. franc.; 21.10 Program; 22.00 Magazyn Sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 7.IX.70**

14.25 i 23.00 Politechnika TV; 15.00 i 23.35 Politechnika TV; 15.30 Przerwa; 16.35 Program; 16.40 Dziennik TV; 16.50 Dla dzieci: „Zwierzynic"; 17.35 „Echo stadionu"; 18.00 „Karuzela" — film bułg.; 18.15 „Sylwetki X Muzy"; 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 VII TV Festiwal Teatrów Dramatycznych W. Szekspir — „Henryk V"; 22.05 „Polski Film Dokumentalny"; 22.40 Dziennik TV.

**WTOREK 8.IX.70**

9.35 „Biały pokój" — film fab. bułg.; 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski; 12.25 Przerwa; 12.45 14.25 Przerwa; **Dzień Bułgarski w TVP** 16.35 Progdam; 16.40 Dziennik; 16.50 „W warneńskiej stoczni" — dokument. film. bułg.; 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 „Nowy krajobraz" — dokument. film. bułg.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Przemówienie Ambasadora Ludowej Republiki Bułgarii; 20.10 Koncert Zespołu Pieśni i Tańca Bułgarskiej Armii Ludowej; 21.00 „Biały pokój" — film fab. bułg.; 22.20 Dziennik TV; 22.35 „Z melodią przez Sofię".

**ŚRODA 9.IX.70**

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Składanie sił"; 11.30 „Śmierć po raz pierwszy" — film TVP; 12.30 „Wybieramy zawód"; 12.50 Przerwa; 14.25 i 22.35 Politechnika TV. Matematyka; 15.00 i 23.10 Politechnika TV. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: „Planeta Ziemia"; 17.20 TV Kurier Warszawski; 17.35 Magazyn ITP; 17.50 Program publ.; 18.20 Koncert artystów amerykańskich — film. bułg.; 18.45 „Dialogi historyczne" — wyd. specjalne; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Przemówienie Ambasadora Koreańskiej Republiki Ludowo-Demokratycznej; 20.15 „Śmierć po raz pierwszy" — film; 21.10 „Światowid"; 21.40 PKF; 21.50 „Wymiar jazzu" — balet do muzyki; 22.15 Dziennik TV.

**CZWARTEK 10.IX.70**

8.15 Matematyka w szkole; 8.45 Przerwa; 9.00 Dla szkół: (kl. V) Historia; 9.30 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Język polski; 12.20 Przerwa; 16.35 Program dnia; 16.50 „Ekran z bratkiem"; 17.50 TV Kurier Kielecki; 18.05 „Perspektywy techniki" — rep.; 18.35 „Przed Wielkim Konkursem" — rep. z historii Międzynarodowych Konkursów Pianistycznych im. F. Chopina; 19.10 „Przypominamy, radzimy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.05 „Prawda o Bebe Donge" — film fab. franc.; 21.55 „Spotkanie z Kanon-Rytmem"; 22.40 Dziennik TV.

**PIĄTEK 11.IX.70**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne; 9.30 „Prawda o Bebe Donge" — film fab. franc.; 11.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie plastyczne; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Przysposobienie obronne; 13.15 Przerwa; 14.25 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 15.00 i 23.35 Politechnika TV. Matematyka; 15.30 Przerwa; 16.35 Program; 16.40 Dziennik; 16.50 Dla młodych widzów: 1. „Od deski do deski"; 17.50 TV Kurier Mazowiecki; 18.05 „Nie tylko dla pań"; 18.25 „Poligon"; 18.55 „Gramy o telewizor" — teleturniej; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Otello z M-2" film; 20.30 „Kraj"; 21.10 VII TV Festiwal Teatrów Dramatycznych; 22.40 Dziennik TV.

**SOBOTA 12.IX.70**

9.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl VII) Geografia; 11.30 „Kulisy ringu" — film fab. franc.; 13.00 Przerwa; 15.05 Program; 15.10 Program; 15.30 „Oferty"; 15.45 III Międzynarodowy Festiwal Folkloru Ziem Górskich — koncert laureatów „Tatrzańskiej Jesieni" w Zakopanem; 16.45 Dziennik; 17.00 Transmisja międzypaństwowych zawodów lekkoatletycznych; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 „Święto Trybuny Robotniczej" — program estradowy; 21.05 Dziennik; 21.25 „Kulisy ringu" — film fab. franc.; 22.55 „Minstrel show" — film rozr. ang.




**PIĄTEK, 4.IX.70**

7.10 Telewizja szkole. Biologia. 7.40 „Atom na nowej pracy". 8.05 Nowiny. 8.15 „Potrzebny człowiek" — film. 9.25 Startują młodzi sportowcy. 9.55 Nowiny. 15.00 Program. 15.05 Nowiny. 15.15 Ulice i place opowiadają. 15.55 Panorama nowin (z Grodna). 16.15 Dziennik pięciolatki. 16.45 Echo dalekich śniegów — film. 18.15 Urodzaj i magazyny. 18.30 „Czas" Informacyjny program. 19.00 Niewolnica kaukazka — film. 20.20 Studenckie zawody sportowe. 20.50 Literacka Białoruś. 21.30 Nowiny.

**SOBOTA, 5.IX.70**

7.30 Dla studentów — mechanika. 8.00 Program. 8.05 Gimnastyka. 8.30 Nowiny. 8.45 Program popularno-naukowy. 10.40 Prowadziła nas młodość. 11.00 Program międzynarodowy. 11.10 „Od tajgi do pustyni" — film. 13.40 Ogień cyrku. 14.30 Koncert. 15.00 Ludowy artysta ZSRR A. Baboczkin. 16.00 Nowiny. 16.05 Kronika półwiecza. 16.45 Nowiny. 16.50 „Na każdym kilometrze" — film cz. I. 18.00 „Czas" Program informacyjny. 18.30 Irakli Andronikow powiada — film. 19.50 „Skrzydła duszy" — film. 20.40 Studenckie międzynarodowe zawody sportowe. 21.30 Nowiny. 21.45 Konne zawody sportowe — reportaż.

**NIEDZIELA, 6.IX.70**

6.30 Dla studentów. Detale maszyn. 7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.15 Nowiny. 7.30 Dzień pracownika naftowego i gazowego przemysłu. 8.00 Koncert życzeń. 8.30 Fantazja z kamienia. 9.00 Skrzydła naszej Ojczyzny. 10.00 Opowiadanie o zdolnościach — film. 10.50 Klub szachisty. 11.15. Życie i piosenki. Program o ludowym artyście G. J. Citowiczu. 11.55 Przyszłość naszych miast. 12.30 Kiosk muzyczny. 13.00 Program dla wojska. 13.30 Tańczy Irena Kołpakowa. 14.00 W świecie zwierząt. 15.00 Klub kinopodróżników. 16.00 Nowiny. 16.05 Trzeci semestr. 16.55 Koncert. 17.00 Piłka nożna. Podczas przerwy „Czas" Program informacyjny. 18.45 Na każdym kilometrze — film cz. II. 19.40 „Romeo i Julia" — film balet. 20.00 Program sportowy. 21.15 Nowiny. 21.20 Konne zawody sportowe — reportaż.

БЕЛАВЕЖА
ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ
№ 141

## Г. Я.

*Навошта ўсе трывогі,*
*Навошта ўсе шкадаванні...*
*Праз перашкоды — парогі*
*Прыйду да цябе на світанні.*
*Ты ведаць не будзеш — аднойчы*
*Я стану тваім сумленнем.*
*...І ты засмяешся ў вочы*
*Гарачым, як шчасце, праменнем...*

*Міхась Мельнік*
*Гродна*



* ✲ *

Ідуць тыя. Янычары імперыі АБЫЖЫЦЬ з шаблямі крывымі, як сумленне, з мушкетамі, у якіх кулі бяздумнасці. Ім ўсё роўна, чыю зямлю таптаць. Ідуць: лева, лева, лева!

Гавораць. Языкі кавалкамі мяса, мова не ад сэрца гарачага, ад звону золата яна. Кожнае слова — дукат: купляюць, купляюць, купляюць. На ўсходнім рынку можна ўсё купіць. І ўсё прадаць. «Мая мова не з пышных салонаў»..., слова: паўдуката, па чвэрць дуката і менш. Па два, чатыры і больш слоў маіх за адно янычарскае. За бесцань!

Калі будуць прадаваць — хачу быць слязьмі горычы іх. І плакаць. Калі мову маю паставяць пад сценку абыякавасці — хачу быць яе крыкам. І памерці, маючы год трыццаць тры! Калі пачнуць хаваць у магілу — хачу быць канём князя яцвяжскага. Каб не расстацца з ёю, беларускаю!

Ідуць тыя!

*Сакрат Яновіч*

## НАПІСАНЫЯ ЗНОСІНЫ

*Маё жыццё*
*паджарае*
*свавольнай цялушкаю*
*топча плантацыі*
*адміністрацыйных ружаў*
*а вакол брашчыць нянавісць*
*у звеннях кайданаў*
*чую жаданні*
*да мяне*
*кайданы —*
*своеасаблівы ружанец*

*Яша Бурш*

## ЖАЛЬ

*— Плачаш? Супакойся, Мікалай!*
*— Адыдзі... адыдзі!...*
*— Дурны — няхай выходзіць! Другую возьмеш, лепшую...*
*— Замаўчы!*
*— От дурны, з-за дзяўчыны плакаць. Хай яна скісне! Хадзі зап'ем.*

*Вуліцаю ішло двух. Сцябаў дождж.*
*— Я табе казаў, не пі. Той не піў і яна за яго пайшла.*
*— Перастань...*

*У прагаліне мокрага неба, мокрага і чорнага, бліснула зорка. Потым яшчэ зорка.*

*Вецер бубніў па лапухах, мокраю анучаю ляпіўся да твару.*

*У канцы вёскі спявала і штучна рагатала музыка. Там гулялі яе вяселле.*

*Двух на вуліцы ішло адтуль, яны яшчэ гаварылі паміж сабою, пакуль даганяла іх музыка — потым паціхлі і прапалі.*

*Вераніка Леанюк*
*Варшава*



*Расул Гамзатаў*

## З КНІЖКІ „МОЙ ДАГЕСТАН"

З НАТАТНІКА. Аднаго разу ў Парыжы напаткаў я мастака-дагестанца. Зараз пасля рэвалюцыі ён выехаў у Італію вучыцца, ажаніўся з італьянкаю і не вярнуўся дадому. Прывычаены да законаў гор, дагестанец цяжка асвойваўся са сваёй новай радзімай. Ён вандраваў па зямлі, спыняўся пад небам вялікіх сталіц чужаземных краін, але куды б ні паехаў ён, усюды была з ім туга. Мне захацелася паглядзець на гэту тугу, увасобленую ў фарбах, я папрасіў, каб мастак паказаў мне свае карціны.

Адна карціна так і называецца: «Туга за радзімай». На карціне намалявана італьянка (тая ж італьянка) у старадаўнім аварскім убранні. Яна ля горскай крыніцы, з сярэбраным збанам вырабу слынных гацатлінскіх майстроў. На схіле гары сумна маячыць каменнасценны аварскі аул, яшчэ сумней маячаць горы над аулам. Верхавіны гор ахутаны імглою.

— Імгла — гэта слёзы гор, — сказаў мастак. — Калі схілы ахутвае імгла, па маршчынах скал пачынаюць сцякаць чыстыя кроплі. Імгла — гэта я.

На другой карціне я ўбачыў птушку, якая сядзела на кусце калючага цярноўніка. А куст расце пасярод голых каменняў. Птушка спявае, і з вакна саклі*) глядзіць на яе засмучаная гаранка. Бачачы, што я зацікавіўся карцінаю, мастак растлумачыў:

— Гэта паводле матываў даўняй аварскай легенды.

— Якой легенды?

— Птушку злавілі і пасадзілі ў клетку. Знайшоўшыся ў няволі, птушка дзень і ноч цвярдзіла: радзіма, радзіма, радзіма, радзіма, радзіма, радзіма, радзіма... Гэтак, як усе гэтыя гады цвярджу я... Гаспадар птушкі падумаў: «Што гэта ў яе за радзіма, дзе яна? Напэўна, гэта нейкая цудоўная квітнеючая краіна, дзе райскія дрэвы і райскія птушкі. Давай жа выпушчу я птушку на волю і пабачу, куды яна паляціць. Яна мне пакажа дарогу ў тую незвычайную краіну». Ён адчыніў клетку, і птушка вылецела. Яна адляцела на дзесяць крокаў і села на куст цярноўніка, што рос сярод голых каменняў. У галінках гэтага куста было яе гняздо... На сваю радзіму я таксама гляджу з вакна сваёй клеткі, — закончыў мастак.

— Чаму вы не хочаце вярнуцца?

— Позна. У свой час я вывез з роднай зямлі сваё маладое, гарачае сэрца, ці ж магу я вярнуць ёй толькі старыя косці?

Прыехаўшы з Парыжа дамоў, я адшукаў сваякоў мастака. На маё здзіўленне, аказалася яшчэ жывою яго маці. Сваякі, сабраўшыся ў саклі, са смуткам слухалі маё апавяданне аб іх сыне, пакінуўшым радзіму, замяніўшым яе на чужыя землі. Але яны як бы развітвалі яго. Яны былі рады, што ён усё жыве. Раптам маці запытала:

— Вы размаўлялі па-аварску?

— Не. Мы размаўлялі праз перакладчыка. Я па-руску, а твой сын па-французску.

Маці закрыла твар чорнаю фатою, як закрываюць яго, калі пачуюць, што сын памёр. Па даху саклі стракацеў дождж. Мы сядзелі ў Аварыі. На другім канцы зямлі, у Парыжы, таксама, мабыць, слухаў дажджу блудны сын Дагестана. Пасля доўгага маўчання маці сказала:

— Ты памыліўся, Расул, мой сын даўно памёр. Гэта быў не мой сын. Мой сын не мог бы забыць мовы, якой навучыла яго я, аварская маці.

*Пераклаў — С. Яновіч*

**) горская хата ў Дагестане.*



## ВЯРГІНІ

Ад'язджала ў далёкую дарогу дзяўчына
І з тугою, ёй у след, глядзелі вяргіні.

Уздыхнула дзяўчына глыбока, глыбока
І касынкі ражком выціраць стала вочы.

Луг у далі застаўся, знікнуў за небасхілам,
І смутак у полі пакрывіў каляіны.

* ✲ *

Мабыць, нельга пакінуць і забыць назаўсёды
Ні бацькоў пастарэлых, ні вяргінь у гародзе...

*Уладзімір Гайдук*
*Тарнопаль,*
*Гайнаўскі павет*



## КРОЎ

Адзін другога пачаў рваць за валасы, за кашулю. Касцельнае адзенне Рамбойча паабвісала палосамі.

— Хто б'ецца!

Суседзі павыходзілі са сваіх панадворкаў і ўглядаліся на Рамбойча і Сламінскага, як яны перакідаюцца ў балоце.

— Адыдзі!... Адыдзі!... — соп Сламінскі.

— Езус Марыя! Б'юцца! — з крыкам выбегла старая Рамбойчка.

Хтосьці адганяў дзяцей.

— Уцякайце! Гэта не вам!

Кроў лілася па тварах, аднаго і другога.

— Забі яго! Забі! — крычаў дурны Гарбаты, сусед Сламінскага.

Мужчыны скочылі разбараняць іх.

Прыйшоў пастарунковы, з арлом на шапцы.

Жонка Рамбойча прыбегла астатняй і заплакала:

— Божа мой!... Божа мой!..

Плакала і плакала.

*Эдвард Ярашэвіч*
*Беласток*



* ✲ *

...я
жартаваў — ...
Усё рынула.
Адвярнула пачуцці.
Як
на Распуціна
глянула Ты.
Адышла.
Я ж
жартаваў...

*Мікола Іванчук*
*Варшава*

## Няпэўнасць

Лёс неаднолькавы ўсім
не ўсім даводзіцца смяяцца ў той
самы момант
некаторым
незаўважаным
увогуле непатрэбным
будучыня расплылася імглою —
— як лісток таполі трапеча
на ветры!
няпэўнасці
чалавечы быт.

Костак Бандарук
Астровак
Сакольскі павет

## ЗАХАПЛЕННЕ

Ці можна на картках звычайнай паперы
Даць выснены вобраз чароўнае Веры?
Красою, усмешкаю добрай і мілай
Нас, можа не хочучы, ты паланіла.
Твой стан, як бярозанька, стройны на дзіва!
І ластаўкі-бровы, і смех твой гуллівы...
І ногі дастойныя боскай Венеры, —
Ды хіба ж апішаш прыгожасць Веры?

*А. Анішчык*
*Вроцлаў*





Пачатак на стар. 1

# С...і ВАДАЎ...

| Павет | Вёска з недахопам вады | Вёскі з пастаянным недахопам вады | Працэнт вёсак з часовым недахопам вады |
|---|---|---|---|
| Гайнаўка | 1 | 32 | 22,7 |
| Бельск | 3 | 26 | 11,2 |
| Беласток | 2 | 38 | 14,3 |
| Саколка | 1 | 40 | 16,8 |
| Дуброва | 3 | 32 | 25 |
| Сямяцічы | 2 | 49 | 18 |

Гэтыя лікі паказваюць, што недахоп вады становіцца важнай праблемай для сельскай гаспадаркі Беласточчыны, настолькі важнай, што абмяркоўкай гэтай праблемы заняліся радныя ваяводскай рады на сваёй апошняй сесіі.

Гэтую сесію нельга, на жаль, лічыць надта ж аптымістычнай. Намеснік старшыні прэзідыума ВРН у Беластоку Уладзімір Міхалюк адкрыта заявіў радным, што праграма капіталаўкладанняў, апрацаваная на 1971/1975 гады ў галіне пастаўкі вады для сельскай гаспадаркі, не абяспечыць нават найбольш неабходных неадкладных патрэб. Ваяводская рада прызначыць на гэта толькі 80 мільёнаў злотых. Каб уявіць сабе многа гэта ці мала, трэба ведаць, што пабудова аднаго кіламетра водаправоду каштуе больш-менш 300 тысяч злотых, а пабудова адной гідрафорні паглынае аж 600 тысяч злотых.

Дык мары аб вадзе з крана ў вясковай хаце трэба адкласці на далейшую будучыню і далей хадзіць за вадой з вядром да калодзежа, дзе скрыпучы журавель доўга яшчэ будзе будзіць са сну заспаўшых гаспадароў.

Калі вёска захоча сабе правесці водаправод, дык ніхто гэтага забараняць не будзе. Толькі ў гэтым выпадку з уласных кішэняў сялян трэба скласці на конта пабудовы водаправода такую суму грошай, якая забяспечыць прынамсі палавіну ўсіх коштаў. Другую палавіну дададуць ПЗУ, Дзяржаўны фонд развіцця сельскай гаспадаркі і іншыя грамадскія ўстановы. За хатняе абсталяванне і за правядзенне вады з вуліцы на панадворак у гэтым выпадку плаціць трэба дадаткова, і то плаціць поўную рынковую цану за выкананне гэтай работы.

Справа тым больш яшчэ ўскладняецца, што не хапае, няма ў продажы неабходных матэрыялаў, асабліва трубак для водаправодных абсталяванняў. Наракаў на гэта радны Тамашэўскі. Гаварыў, што не можа купіць у крамах запасных частак для электрарухавіка і таму яго хатняе абсталяванне для падачы вады стаіць без карысці.

Што ж, водаправод у вёсцы — гэта вышэйшая ступень яе адыходу ад даўняй адсталасці. Чарга на гэтую ступень наступіць тады, калі мы справімся з электрыфікацыяй (асталося яшчэ нямнога) і меліярацыяй (тут яшчэ шмат чаго да работы). Да гэтага часу адсылаем усіх сасмаглых да заслужанага калодзежа. А маладым, здаровым юнакам з вёскі прапануем павучыцца, як капаць калодзежы. Працы будзе поўныя рукі. Можна добра зарабіць.

*М. Нурэцкі*



Пачатак на стар. 1

# ЯК БЫЦЬ, КАБ ШЧАСЛІВА ЖЫЦЬ?

не стрымаў я свайго здзіўлення. — Гэта вашая жонка?

— Так, мы ўжо запісаліся, але яшчэ не паспелі павянчацца і таму (так для людскога вока) жывем асобна. Я матацыклам, хуценька, маю важную справу. Вас знайду ў святліцы.

І зараз пачаў віламі вырываць з хлява перагнілую салому. Мне не заставалася нічога іншага, як зноў вярнуцца да яго маці.

— Скажыце па шчырасці: адкуль вы ўзялі аж столькі грошай, каб пабудаваць такую прыгожую мураванку?

У вачах жанчыны паявіўся непрыхільны бліск.

— Што вы нам у кішэню заглядаеце; мы ж нікому ані залатоўкі не ўкралі! Усё вось гэтымі рукамі, — і працягнула да мяне свае пачарнелыя, мазолістыя далоні.

— Што вы? Я нат' не падумаў! — бараніўся я. — Мне проста хочацца ведаць, як трэба гаспадарыць, каб мець як найбольш прыбытку.

— Як, як! — Яшчэ не магла супакоіцца жанчына. — Добра трэба гаспадарыць, вось што! Як Федзя вярнуўся ў вёску, мы гадзіны свабоднай не мелі. Усё кантрактавалі. І збожжа, і траву, і трускалкі, і свіней, а нават ферму нутрый завялі, 60 штук іх мелі. дзень і ноч працавалі і ў дзяржавы запазычыліся.

Чакаючы вечарам у святліцы маладога гаспадара, распытваў я пра яго ўаднавяскоўцаў. З іх апавяданняў вынікала, што Федзя Хлябіч, якому зараз 25 год, здольны майстар, па прафесіі тэхнік-будаўнік і добры арганізатар. Калі тры гады таму назад выбралі яго старшынёю і адначасова дыспетчарам сельскагаспадарчага гуртка, валілаўскі гурток «ехаў» на стратах. Цяпер на кожны трактар гэтага гуртка прыпадае ў сярэднім па 1400 гадзін працы ў год. Гэта вынік амаль рэкордны ў маштабах ваяводства.

— Скажыце, чаму вы выбралі вёску? З вашай жа прафесіяй вельмі лёгка знайсці працу ў горадзе? — пытаю я ў Федзі Хлябіча, калі ён, (разам з жонкай) урэшце паявіўся ў валілаўскай святліцы.

— Я працаваў у горадзе, — гаворыць ён. — Зарабляў па-рознаму — ад паўтары да дзвюх тысяч. Можна сказаць, што на аднаго маладога хлопца гэты заробак зусім дастатковы. Аднак зараз, каб і тры тысячы давалі мне ў месяц, не пайшоў бы на гарадскую пасаду. Тут у вёсцы я шчаслівейшы, а гарадскія выгоды зраблю сабе сам. У маім доме будзе і вада з кранаў, і каналізацыя, і ванны пакойчык. А калі мне захочацца пагуляць у горадзе, дык, калі ласка, завяду матацыкл, а можа за некалькі год і таксоўку...

*В. Рудчык*



# С. ПРЫТЫЦКІ
## госцем у Польшчы

По запрашэнню старшыні Рады Дзяржавы, Маршала Польшчы Мар'яна Спыхальскага пабываў у Польшчы старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Сяргей Прытыцкі. С. Прытыцкага, які прыбыў да нас на адпачынак разам з жонкаю Тамарай, суправаджалі намеснік Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП, Мечыслаў Мочар з жонкаю.

С. Прытыцкі пабываў у Польшчы ўжо некалькі разоў. Нашую радзіму знае вельмі добра як пасля вызвалення, так і перад вайной, таму што нарадзіўся ў Беластоцкім ваяводстве ў вёсцы Гаркавічы Сакольскага павета. Адным словам, жыццё, праца і рэвалюцыйная дзейнасць С. Прытыцкага звязаны з Польшчай, Беларуссю і Савецкім Саюзам.

Людзі, якія памятаюць міжваенны перыяд, добра памятаюць і ўспамінаюць постаць Прытыцкага як палкага рэвалюцыянера з аколіц Гродзеншчыны і Віленшчыны. Асабліва ў памяці захаваўся працэс ў Вільні ў 1936 годзе, калі С. Прытыцкі быў засуджаны на смяротную кару за зліквідаванне шпіцля паліцыі ў радах КПП і КПЗБ. Аднак дзякуючы пратэстам мас супраць гэтаму пакаранню, якія адбываліся ў Польшчы, Савецкім Саюзе, ва ўсёй Еўропе, нават у Амерыцы, санацыйны ўрад змяніў гэты прыгавор на пажыццёвае зняволенне. Ад гэтага прыгавору вызваліла Прытыцкага вайна 1939 года.

Імя Сяргея Прытыцкага звязана таксама з гісторыяй барацьбы Савецкай Арміі і Войска Польскага. Быў ён важным афіцэрам у Штабе цэнтральнага фронту Савецкай Арміі, змагаўся ў радах партызан на Беларусі, а ад 1944 па 1945 год быў камандзірам Польскага партызанскага штаба.

Зараз Сяргей Прытыцкі з той прычыны, што з'яўляецца старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР поўніць таксама функцыю намесніка старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Ён з'яўляецца сімвалам польска-савецкага братэрства і барацьбы.



*Злева: С. Прытыцкі, Ф. Мачарова, Т. Прытыцкая, М. Мочар.*

Пачатак на стар. 1

# У КЛОПОТАХ АБ ЛАДЗЕ І ПАРАДКУ

у грамадскія аб'екты і 46% крадзежы прыватнага дабра.

З'ява грамадска не прыстасаванай моладзі вельмі складаная і вынікае з цэлага шэрагу прычын, не заўсёды яшчэ добра пазнаных. У гэтым адыгрывае сваю ролю і ранейшае дарастанне, выкліканае агульным развіццём цывілізацыі, школьныя няўдачы і факт непрыняцця ў сярэднюю школу, а таксама дрэнны ўплыў сям'і або наогул адсутнасць выхаваўчай апекі. Найважнейшая справа — прыспасобіць гэту моладзь да працы і навукі. Трэба яшчэ ўлажыць шмат працы і ўпартасці, каб давесці да канца зробленыя ў гэтай галіне крокі і пераламаць неахвоту некаторых прадпрыемстваў у прыманні і прывучанні да працы гэтай моладзі, як гэта зрабілі ГЗПМЛ, дзе працуе 40 падлеткаў. Каардынацыя працы многіх устаноў, арганізацый і грамадскіх калектываў пры дапамозе рад нарадовых становіцца ў гэтай галіне вельмі неабходнай. Каб змагацца з дэмаралізацыяй і злачынствам сярод малалеткаў, органы МО прадпрыймалі шэраг прафілактычных дзеянняў. Напрыклад, штогод паведамляліся суды для непаўналетніх у каля 40 выпадках, школы — у 48 выпадках дрэнных паводзін вучняў, месцы працы бацькоў — у 36 выпадках, а прадпрыемствы, дзе працуюць непаўналетнія, — у 21 выпадку. Штогод працаўнікі міліцыі праводзяць некалькі соцень размоў з бацькамі, дзеці якіх парушаюць заканадаўства. Па ініцыятыве МО, пры падтрымцы партыйных і грамадскіх улад пры ПК Фронту адзінства народа створана грамадская камісія па справах дзяцей і моладзі. На жаль, камісія працуе слаба.

Сур'ёзнай прычынай дэмаралізацыі і злачыннасці сярод моладзі з'яўляецца алкагалізм. У павеце ўжо нядрэнна арганізавана лячэнне алкаголікаў, прызначаюцца вялікія сумы грошай на супрацьалкагольную прапаганду, матэрыяльную дапамогу для дзяцей і сямей алкаголікаў, дзесяткі дзеячаў правяраюць выконванне антыалкагольнай пастановы, але выразнага паляпшэння не відаць.

Вялікая колькасць злачынстваў і хуліганскіх выбрыкаў, зробленых пад уплывам алкаголю, гаворыць аб неабходнасці больш энергічна змагацца з алкагалізмам. Хопіць сказаць, што ў мінулым годзе з агульнай колькасці прапаноў аб пакаранні, накіраваных у карна-адміністрацыйныя калегіі, аж 56% прапаноў было на асобы, якія хуліганілі ў нецвярозым стане, а 26,1% — у дарожным руху.

У 1969 годзе на калегію было накіравана 174 прапановы аб пакаранні, а ў I паўгоддзі гэтага года 61 прапанова — за сур'ёзныя хуліганскія ўчынкі ў парушэнні публічнага парадку. На сесіі падкрэслівалася, што абмежаванне ў продажы алкаголю часта не толькі не дае ніякіх вынікаў, але нават спрыяе пашырэнню нелегальнага гандлю гарэлкай. Ілюстрацыяй да алкагалізму могуць быць і такія лічбы: 86 расследванняў у год у справах аб фізічных і маральных здзеках над сям'ёй, каля 100 прапаноў аб кары на калегію за парушанне публічнага парадку ў нецвярозым стане і больш 20 прапаноў у грамадскую лекарскую камісію аб прымусовым лячэнні алкаголікаў.

Шмат яшчэ трэба зрабіць у павеце для павышэння рангу грамадскага супрацьалкагольнага камітэта для таго, каб заахвоціць працаваць у ім людзей з вялікім аўтарытэтам у асяроддзі. Апрача таго, неабходна актывізаваць у гэтых справах жанчын і іх арганізацыі.

Побач з гэтымі вельмі адмоўнымі з'явамі можна заўважыць у Гайнаўцы і павеце пэўныя дасягненні ў барацьбе са злачынствам. Хоць яны і здаюцца невялікімі, але нават стрыманне павелічэння колькасці злачынстваў у нашым горадзе — гэта ўжо дасягненне.

У выніку выконвання двух галоўных функцый міліцыі — прафілактыка і пакаранне як апошняга сродка, — з году ў год змяншаецца лік найбольш небяспечных злачынстваў, а адначасова ўзрастае выкрыццё злачынцаў.

За перыяд 1969 года з 245 злачынстваў выкрыта 212, што складае 86,5%.

Шмат увагі прысвечана было на сесіі справам грамадскага кантролю. Шмат злоўжыванняў у гандлі, у скупе сельскагаспадарчых прадуктаў, у падзеле рэгламентаваных тавараў вынікае з невыканання пастановы аб яўнасці пры вызначэнні прыдзелаў, класіфікацыі, прызнанні ільгот, падпісання ўмоў і г.д. Часам гэта звязана з вельмі складанымі працэдурамі ўладкоўвання некаторых спраў.

У шматлікіх галінах грамадскага жыцця створаны ва ўстановах органы грамадскага кантролю: грамадскія кантрольныя камісіі, арганізаваныя прафсаюзамі, камісіі надзору на пунктах скупу, камітэты пры крамах, супрацьалкагольныя і супрацьпажарныя камітэты, калектывы кантролю і г.д. Справа заключаецца ў тым, каб рады нарадовыя дапамагалі грамадскім камісіям, ацэньвалі часцей іх дзейнасць, дзякавалі актывістам і дапільноўвалі выкананне прапаноў гэтых грамадскіх звенняў.

Можна спадзявацца, што пры добрай дапамозе МО і пры поўнай каардынацыі ўсіх намаганняў зацікаўленых арганізацый і ўлад, пастановы сесіі МРН будуць садзейнічаць далейшым дасягненням у забеспячэнні грамадскага парадку і спакою жыхарам Гайнаўкі.

*К. Ляшчынскі,*
*старшыня прэзідыума МРН у Гайнаўцы*

*Карэспандэнцыя з Мінска*

# СТАЛЁВЫЯ АРТЭРЫІ РЭСПУБЛІКІ

Ва ўмовах хуткага і ўсебаковага развіцця народнай гаспадаркі чыгуначны транспарт Беларускай ССР, як і ўсёй Савецкай краіны, характарызуецца шырокім тэхнічным прагрэсам, развіццём цеплавой і электрычнай цягі. У канцы 1964 года на лініі Смаленск — Мінск—Брэст паявіліся першыя цеплавозы, якія вадзілі толькі пасажырскія цягнікі. Хутка цеплавозная цяга пачала прымяняцца і на ўчастку Мінск—Вільнюс. У 1966 годзе на цеплавую цягу сталі пераводзіцца і грузавыя цягнікі.

Увядзенне цеплавой цягі на сталёвых магістралях Беларусі дазволіла рэзка павысіць хуткасць руху паяздоў, палепшыць культуру абслугоўвання пасажыраў, палепшыць умовы працы чыгуначнікаў. Цяпер, напрыклад, цягнікі на лініі чыгуначнай дарогі Масква — Брэст ідуць з хуткасцю 140 кіламетраў у гадзіну. Але гэта яшчэ не канец. На меры далейшага ўдасканалення тэхнікі будуць павышацца і хуткасці.

Аднак найлепшым відам транспарту пасажыры лічаць электравозы, альбо, як іх усе называюць, — электрычкі. Пакуль што можна гаварыць толькі аб невялікім участку электрыфікаванай дарогі Мінск-Маладзечна. Гэтаму ўчастку належыць першынства, ён з'яўляецца своеасаблівай школай у шырокай праграме электрыфікацыі чыгуначных дарог Беларусі. Электрыфікацыя лініі Мінск—Маладзечна дазволіла сотням тысяч мінчан у выхадныя і святочныя дні выкарыстоўваць для свайго адпачынку маляўнічыя месцы ў прыгараднай зоне. Берагі мінскага вадасховішча (Мінскае мора) і цяністыя лясы Заслаўшчыны сталі любімымі месцамі адпачынку мінчан.



*Адна з лепшых брыгад праваднікоў цягніка «Беларусь» на чале з Віктарам Ходашам.*

Цяпер ужо пачаты і вядуцца работы па электрыфікацыі чыгуначнай дарогі да другой прыгараднай зоны адпачынку працоўных — Мінск-Пухавічы.

Вялікія змены за апошнія гады адбыліся ў арганізацыі далёкіх пасажырскіх перавозак. Сталіца БССР — Мінск мае цяпер бесперасадкавае спалучэнне з Масквой, Ленінградам, Кіевам, Вільнюсам, Рыгай, Талінам, з курортамі Крыма і Каўказа. Экспрэс «Беларусь», які курсуе паміж Мінскам і Масквой, аднагалосна прызнаны адным з найлепшых на чыгунках дарогах краіны.

Участкі Беларускай чыгуначнай дарогі з'яўляюцца часткай важнейшых ліній прамога чыгуначнага спалучэння: Масква — Варшава, Масква — Берлін, Масква — Парыж, Масква — Рым, Масква — Лондан.

Праз станцыю Брэст краіна вядзе ажыўлены тавараабмен з многімі краінамі Еўропы, і ў першую чаргу, з сацыялістычнымі. Нягледзячы на хуткае развіццё на Беларусі многіх іншых відаў транспарту, чыгуначнаму належыць рашучая роля ў перавозках грузаў і пасажыраў. На яго долю прыпадае цяпер каля 80-ці працэнтаў агульнага грузабароту.

Праз дзейнічаючыя ў рэспубліцы Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, Брэсцкі, Гомельскі і Аршанскі тэхнікумы і тэхнічныя школы за апошнія гады падрыхтаваны для работы на чыгунцы тысячы высокакваліфікаваных спецыялістаў. У сувязі з пераходам на цеплавую цягу, на новыя сродкі сігналізацыі і аўтаматызацыі, вялікая ўвага прысвячаецца перакваліфікацыі работнікаў масавых прафесій. Гэта дапамагае вырашэнню канкрэтных задач па паскарэнню эканамічнага прагрэсу, па павышэнню эканамічных паказчыкаў.

Цяпер на прадпрыемствах чыгуначнай дарогі занята больш 12-ці тысяч спецыялістаў з вышэйшай і спецыяльнай сярэдняй адукацыяй.

Шмат увагі на чыгунцы прысвячаецца паляпшэнню медыцынскага абслугоўвання чыгуначнікаў і іх сямей. Шырокая сетка бальніц, паліклінік забяспечвае магчымасць кожнаму чыгуначніку атрымаць неабходную бясплатную медыцынскую дапамогу. Работнікі медыцынскіх устаноў праводзяць вялікую работу па папярэджванню захворванняў сярод чыгуначнікаў. Атрымала распаўсюджванне новая форма медыцынскага абслугоўвання — санаторыі і прафілакторыі. У іх чыгуначнікі не толькі адпачываюць, але і атрымліваюць неабходнае лячэнне.

Добрыя ўмовы створаны і для культурнага адпачынку. У распараджэнні работнікаў чыгункі звыш 20-ці клубаў, Палац культуры, больш 500 чырвоных куткоў, 7 вагон-клубаў, дзесяткі бібліятэк, 7 спартыўных стадыёнаў, звыш 200 спартыўных пляцовак, шмат спартыўнага абсталявання.

*Дзмітры Лосеў,*
*рэдактар газеты «Чыгуначнік Беларусі»,*

# ІМГЛА НАД ВІГРАМІ

Не раз бывае так, што, нацешыўшыся шумам вялікага горада, а нават і спякотным сонцам нейкага паўднёвага курорта, хочацца ўцячы некуды ў глухамань, дзе лес і ціша, дзе няма ні радыё, ні тэлевізара, дзе не купіш нават газеты.

Такое месца мы знайшлі ля возера Вігры, у мясцовасці, якая мае крыху дзіўную назву Гаўрых-Руда. Знайшлі, і былі падрыхтаваны да ўсіх невыгод палявога жыцця.

Хто быў на Віграх, той ведае: надвор'е тут бывае найчасцей няпэўнае, сонца слабое, над азёрамі сцеліць імгла, імжыць дождж. У такую пагоду хочацца схавацца пад нейкі цёплы, утульны дах, дзе можна было б пасядзець, пагутарыць, дзе можна было б напіцца гарачай гарбаты ці добра паесці.

Такім прыхільным дахам для змерзлых і змоклых аматараў воднага спорту ці лясных прагулак з'яўляецца ў мясцовасці Гаўрых-Руда будынак ПТТК, невялікі, з выгляду — звычайная сялянская хата.

Ужо 12 год працуе тут Ганарата Рупец, ці проста пані Геня, ад усмешкі якой становіцца цёпла нават у самы халодны дзень. Пані Геня штогод бярэ ў арэнду будынак ПТТК і вядзе не толькі кухню, але і ўсе справы, звязаныя з побытам турыстаў у гэтай мясцовасці. А турыстаў тут усё ж нямала: толькі ўдзельнікаў 14-дзённага сплыву на байдарках прыязджае штодзень па 20 чалавек, трэба іх размясціць (ПТТК мае 15 домікаў — начлег на 30 чалавек), трэба накарміць (сплыў затрымліваецца тут амаль суткі), трэба прыбраць за імі, бо выязджаюць яны пасля снедання, а на абед прыязджаюць ужо іншыя.

І так працуе пані Геня 60 дзён, пачынаючы ад 24 чэрвеня. Трэба сказаць аднак, што дапамагае ёй дзельна яе муж, які наогул працуе памочнікам машыніста на лясной чыгунцы, але на час водпуску (а бярэ ён яшчэ месяц бясплатнага) становіцца «заапатшэнёўцам» пані Гені. Штодзень давозіць ён сваім матацыклам правіянт у ПТТК. Калі трэба зрабіць большыя закупы (напрыклад, прывезці піва, ці нешта з рынку), тады едзе ён на пазычаным кані з фурманкай.

Дапамагаюць пані Гені і дзве маладзенькія дзяўчынкі: адна з іх увіхаецца на кухні і ля домікаў, другая выконвае функцыі афіцыянткі.

Аб кухарскіх здольнасцях пані Гені вядома ўсім шмат кіламетраў навокал. Нават у Слупянскім заліве сказалі нам: «О, вам добра! Вы сталуецеся ў ПТТК-у!»

А Ганарата Рупец не скончыла ў гэтым кірунку нават нейкіх курсаў. Але ўжо ад 16 гадоў працавала пры кухні. Ужо перад вайной вяла яна нейкія «вчасы» у Гаўрых-Рудзе, пасля ж вайны працавала ў розных гарцэрскіх лагерах ля Аўгустова, у вайсковым доме адпачынку над возерам Белым і вось цяпер ужо 12 год (з невялікімі перапынкамі) працуе ў Гаўрых-Рудзе, дзе запрапанавалі ёй працу работнікі ПТТК і дзе праца ёй так прыпала да густу.

А трэба сказаць, што аддае яна шмат сілы сваёй працы, ды робіць гэта надзвычай сумленна. Дзе ж вы бачылі сталоўку, ды яшчэ ў глухамані, каб варылі супы на цяляціне, каб на вячэру рабілі фаршыраванага шчупака, каб што трэці дзень пяклі пірагі! Усё заўсёды свежанькае, пахне не сталоўкай, а домам. Рыбкі ўдосталь якой хочаш — нават сялявы, хоць найчасцей бывае так, што шавец без ботаў ходзіць.

Таму не толькі ўдзельнікі 14-дзённага сплыву на байдарках сталуюцца ў доме ПТТК, але і многія госці з Варшавы, Кракава, і з-над мора, для якіх тутэйшыя мясцовасці з'яўляюцца вялікай атракцыяй і якія ахвотна разбіваюць свае палаткі над комплексам Віграўскіх азёр.

Пішу я аб гэтым усім, бо ў сваім жыцці бачыла ўжо нямала мясцовасцей і сталовак, але нідзе так не было мне прыемна і не пахла так домам, а пах дому, як вядома, найлепшы. Пішу і таму, што нават у вялікім ПТТК-у ў Старым Фальварку (на другім канцы Віграўскіх азёр), не так прытульна і не так смачна вараць. Пішу з удзячнасці за тое, што прысутнічаў у гаўрыхрудаўскім ПТТК-у пані Гені ацяпляе тут усім не надта цёплы побыт.

*Ада Чэчуга*

# ● ЗУБАВА ●

Тут гаспадары маюць немалы клопат. На пунктах скупу свіней і жывёлы ад гаспадароў не хочуць прымаць кантрактаванай жывёлы. На адным з пунктаў скупу на даставленых 70 штук было прынята толькі 5.

Гаспадары вельмі ўзбураны гэтым. Гаварылі, што яны маюць страты не толькі ў марнаванні часу, сіл і нерваў, але матэрыяльныя. Даводзяць гэта на прыкладзе беконаў. Калі беконных свіней патрымаць даўжэй, дык вага пераўвысіць норму і тады ім заплацяць менш за кожны кілаграм. (ка)




## БУРА НАД НАРВАЮ

Па рацэ летам найлепш падарожнічаць байдаркай. Падарожнічаю па Нарве, пачаўшы ад Бандароў аж па асаду Нарву. Над Нарваю вёсачкі смешна маленькія, адважна рассыпаныя над самай ракой.

Цёплы летні дзень. Нядзеля. Вечарэе.

Ля вёскі Бяндзюга затрымаўся я ля берага. Падышоў да мяне мужчына з дабрадушнай усмешкай. Раіць пачакаць гадзінку, пакуль жанчыны падояць кароў, будзе свежае малако. Пытае, куды я маю заданне даплысці. Адказваю, што плыву без усялякіх прынятых раней заданняў, от так, абы плысці. Мужчына здзіўляецца, а потым пытае:

— Я то не магу неяк зразумець, як так плысці без мэты і задання. Якая ў тым прыемнасць? Або прыязджаюць сюды некаторыя рыбу вудзіць. Ну што ў тым за прыемнасць — не разумею! Па-мойму, як ужо лавіць рыбу, дык так, як гэта калісь рабілі: кломляй або сеткай — прынамсі чуеш, што нешта злавіў. А так сядзець і чакаць невядома колькі, пакуль клюне, — гэта дурнота.

Тлумачу, як магу, што справа не ў тым, каб злавіць, але ў тым, каб лавіць. Што людзі, якія не маюць штодзённага кантакту з прыродай патрабуюць гэтага кантакту для адпачынку, для псіхічнага і фізічнага здароўя і што рэчка — гэта не толькі эканамічнае багацце, але і багацце прыгажосці. Дзядзька ківае галавою шматзначна, з чаго і не ведаю толкам, згаджаецца ён са мною, ці не.

Ноч застала мяне за Рыбакамі, дзе няма ні вёскі, ні хатак — адна балоцістая даліна, парослая дзе-нідзе кустамі. Нахмурылася і пачало грымець, зрабілася цаклам цёмна і пачаў траціцца з вачэй рачны нурт. Трэба было вылазіць на бераг.

У пустым дзікім полі цёмнай ноччу і перад бураю неяк няёмка і страшнавата. Прымасціўшыся пад густым карчом, пачынаю рабіць сабе «хатку» з галін. І хапіла зрабіць з некалькіх зломаных галін нешта, нагадваючае дах, пасляць пад гэтым «дахам» з травы пасцель, легчы і прыкрыцца, каб знік усялякі страх і незвычайнасць, каб адчуць сябе як дома, як у мамы за печкай — спакойна і бяспечна.

Каля поўначы над Нарвай расшалелася пякельная бура. Зашумела ў цёмных хмарах, па рэчцы ляснулі перуны, ноч раскалілася блескам маланак, з неба грымнуў густы лівень. Вецер сарваў дах над маёй галавою, пад ногі аднекуль хлынула вада, заліваючы маю пасцель і ўсю маю маёмасць. Трэба было хутка ратаваць байдарку і самому ратавацца.

Ранняй раніцай быў я ўжо ў асадзе Нарва. Прамоклы да апошняй ніткі і азяблы, застукаў да першай з берагу хаты. Гаспадары хаты круціліся ўжо каля гаспадарскіх сваіх спраў. Уласцівыя гаспадары хаты — дзядуля і бабуля. У іх у гасцях дачка, якая пастаянна жыве ў Беластоку з унучкай. Прыехала ў Нарву памагчы бацькам па гаспадарцы. Дачка, круцячыся ля печы, гаварыла:

— Што за страшная ноч, мы ўвогуле не спалі. Як пачалі ламатаць перуны, малая мая перапалохалася, пачала плакаць, я сама не магла заснуць да самага рання.

Бабуля глядзела на мяне з недаверам, дапытваючыся:

— То дзе вы былі? Над ракою? Уначы? Самі адзін? Чаму? Чаго? Навошта?

Абсохшы, пайшоў я на панадворак да дзядулі, які рубаў дровы.

— Ну, — запытаў ён, перарываючы работу, — то якія былі вашыя ўражанні ад гэтай буры, што вам думалася і што здавалася? — Я, — гаварыў сам пра сябе, — вельмі люблю буру. Помню такую страшную навальніцу. Гэта было даўно, яшчэ мой бацька пакойны жыў. Паехалі мы з ім па сена...

І дзед пачаў расказваць мне доўгія гісторыі наднараўскіх бураў. Потым спытаў:

— А ў завею давялося вам калі быць у чыстым полі? Не? О, шкада. Гэта таксама страшна і цікава. Я калісь вярнуўся з Сушчы з дрэвам. Пад вечар пачалася снежная завея...

І дзядуля пачаў расказ аб наднараўскіх завеях.

— А ў лесе, — спытаў на заканчэнне, — давялося вам калі-небудзь заблудзіць ноччу? Таксама не? О, дык мусіце вы яшчэ многа падарожнічаць. Трэба ў жыцці ўсё ўбачыць.

Дзядуля ўстаў з пянька. Падняў з зямлі сякеру. Перад тым як замахнуўся, ойкнуў і схапіўся левай рукой за плечы.

— Вось здароўя няма ўжо, — сказаў. — Так нейкая колька ўвалілася ў плечы, часам павярушыць цяжка.

Замахнуўся і расколаў палена. У яго твары, як у люстры, празіралася сіла і боль усіх наднарвянскіх бур і завеяў.

*Ул. Паўлючук*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### НЕ ТОЛЬКІ З МЯСА

Большасць гаспадынь, калі на гэта толькі дазваляе ім кішэнь, стараецца кожны дзень на абед зрабіць што-небудзь з мяса. Асабліва на другое блюда. Нельга пры гэтым аднак забывацца і пра падробы: пячонку, ныркі, мазгі, язык. Яны таксама смачныя, шмат у іх жалеза, фосфару, вітаміну А і г.д. Сёння падаем тры цікавыя (на нашую думку) рэцэпты.

*Ныркі з чырвоным перцам (папрыкай).* Паўкілаграма нырак (найлепш свіных) ачысціць, выразаць з іх белыя часцінкі і жылкі, улажыць ныркі ў пасолены кіпяток і абварыць іх мінуты 2—3 (каб, як кажуць, сышоў з іх той непрыемны дух). Адцадзіўшы, нарэзаць ныркі тоненькімі скрылёчкамі, пасыпаць мукою. На большай патэльні падсмажыць цыбулю з тлушчам, а на гэта палажыць нарэзаныя ныркі, хутка падсмажыць, памешваючы, пасля чаго зменшыць агонь, дадаць папрыку, перац і соль па смаку, падліць крыху халоднай вады і тушыць 10—15 мінут. Калі соўс будзе занадта густым, даліць яшчэ крыху вады. Перад падачай дадаць паўшклянкі смятаны. Ныркі добра падаць з бульбай або ячменнай кашай.

*Язык з соусам.* Паўкілаграма языкоў памыць, заліць халоднай вадой, варыць каля гадзіны. Дадаць цэлую морквіну, цыбуліну, пятрушку і селер, ды варыць языкі так доўга, пакуль не стануць яны зусім мяккія. Тады выняць языкі з навару, абпаласкаць халоднай вадой і хутка зняць скурку. Языкі ўлажыць ізноў у вывар. Падрыхтаваць соус: намочаную ў халоднай вадзе палачку хрэну аскрабсці, сцерці на бульбянай тарцы, спырснуць лімонным сокам і пакінуць на 10 мінут на адкрытым акне. Паўтары лыжкі мукі крыху падсмажыць з лыжкай масла, заліць 1,5 шклянкамі навару з языкоў, памешваючы закіпяціць, пасля ўлажыць падрыхтаваны хрэн і яшчэ хвілінку тушыць, дадаючы па смаку соль, цукар, лімонны сок. Адставіўшы з агню, дадаць паўшклянкі смятаны (хто не любіць, можа не дадаваць), улажыць у соус нарэзаныя порцыямі языкі. Падаваць з бульбай.

*Мазгі з яечкамі.* 300—400 г. мазгоў укінуць толькі на некалькі секунд у кіпяток з лыжачкай воцату, пасля адцадзіць, зняць цёмныя жылкі, мазгі пасячы. На вялікай патэльні разагрэць масла, падтушыць у ім палавіну дробна нарэзай цыбуліны, дадаць соль і перац, улажыць пасечаныя мазгі, хвіліну смажыць на досыць вялікім агні. Убіць у мазгі 3 яечкі, вымяшаць, а як добра падсмажыцца бялок, можна падаваць — найлепш на падсмажаных з абодвух бакоў грэнках з булкі. Пасыпаць зелянінай.

*Гаспадыня*

# ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

### НЯВОЛІ СТО ГОД

Не заўсёды відавочная сувязь паміж паасобнымі падзеямі, часта аддаленымі паміж сабой у часе і прасторы. Тады, калі расійская сацыялістычная рэвалюцыя канчаткова засталася жыць, каланіяльныя дзяржавы пераажывалі свой трыумф: яны валодалі Афрыкай. Валодалі, але не заняволілі яе. Менавіта, Ленін убачыў гэту розніцу, бачыў іншую, чым буржуазія, будучыню народаў у ярме каланіялізму. Прадвеснем гэтай будучыні з'яўляліся крывава задушаныя бунты ды ўзброеныя паўстанні: зулусаў у Паўднёвай Афрыцы ў гадах 1879, 1887, 1903; вайна Англіі з матабеле (Паўднёва-Усходняя Афрыка) у 1893 годзе; паўстанне машона і матабеле ў 1896 годзе; барацьба херэра (Заходняя Афрыка) супроць немцаў у 1906 годзе, закончаная экстэрмінацыяй 80 тысяч мужчын, жанчын і дзяцей, паўстанне майі ў 1906 годзе на тэрыторыі Танганьікі, у час якога памардавана сто дваццаць тысяч людзей, дзесяткі іншых, большых і меншых паўстанняў. Каланізатары ніколі не заззналі спакою, бо Афрыка надта ж цаніла свабоду.

Амаль напярэдадні экспансіі еўрапейскага імперыялізму, у 1871 годзе паявілася кніжка французскага інтэлектуаліста Эрнеста Рэнана, у якой ён сцвердзіў:

«Каланізацыя, ведзеная ў вялікіх маштабах, з'яўляецца палітычнай патрэбай... ўрада. Народ, які не каланізуе, безагаворачна засуджаны на сацыялізм, на барацьбу беднага з багатым. Заваяванне краіны вышэйшай расай, якая там умацуецца, каб кіраваць, не з'яўляецца нічым дрэнным. Прырода стварыла расу рабочых».

Значыць, або каланізацыя, або сацыялізм, заваёўванне іншых народаў або бунт уласнага народа. У тым і крыніца каланіялізму. Афрыка з'явілася надта зручнай для каланізацыі з увагі на яе геаграфічную блізкасць. Прытым варта ведаць, што Афрыка з'яўляецца другім па велічыні сваёй кантынентам свету, і займае пятую частку планеты Зямля.

Развіццё негрыцянскіх народаў перапыніў гандаль нявольнікамі. Паводле праведзеных дагэтуль аб'ектыўных доследаў аказваецца, што ў XIV і XV стагоддзях перад гандлем нявольнікамі, не было вялікай розніцы паміж узроўнямі развіцця афрыканскіх народаў і насельніцтвам іншых частак Зямлі. Усе негрыцянскія плямёны, за выключэннем бушменаў, ведалі выраб жалеза, медзі, бронзы і золата. Тэкстыльныя вырабы народа хауса (Заходняя Афрыка) і сафіянавыя вырабы здабылі сабе вядомасць таксама на еўрапейскіх рынках.

Першыя еўрапейцы з'явіліся на афрыканскай зямлі ў XV стагоддзі, але тады іх гаспадарчая экспансія канцэнтравалася перад усім у Індыі і ў Амерыцы. Афрыка не выклікала тады асаблівых зацікаўленняў. Толькі на заходнім узбярэжжы былі заснаваны гандлёва-вайсковыя факторыі партугальцаў, датчан, англічан, а нейкі час таксама брандэнбургскіх немцаў. Глыбіня афрыканскага кантынента заставалася таемнай і невядомай. Не цікавіліся ёю ні вайскоўцы, ні палітыкі, ні гандляры. Да 1870 года пад уладаю каланіяльных дзяржаў знаходзілася ўсяго дзесяць працэнтаў тэрыторыі Афрыкі, перш за ўсё ўзбярэжжы.

Характэрна, што канцэнтраваная атака на Афрыку каланіяльных дзяржаў, якая пачалася ў апошняй чвэрці мінулага стагоддзя, не з'явілася вынікам саюзаў паміж імі, але вострай барацьбы за каланіяльны падзел кантынента. Кожная каланіяльная дзяржава намагалася выперадзіць адна другую ў захопе намераных тэрыторый чорнай Афрыкі. Напрыклад, французскія каланізатары імкнуліся да ўтварэння велізарнай каланіяльнай імперыі ад Атлантычнага па Індыйскі акіян. Але падобны апетыт разгарэўся і ў Англіі.

Афрыка залілася крывёю. (а-ся)



*Руіны магутнай крэпасці Зімбабве, аднаго з цэнтраў некалі магутнай негрыцянскай дзяржавы.*

МОВА ЭСПЕРАНТА

## ЗА ДАДАТКОВУЮ СІМВОЛІКУ

У Беластоку адбыўся II Агульнапольскі культурны фестываль эсперанцкай моладзі. Удзельнічалі ў ім таксама балгары, чэхі, французы, галандцы, сербы, харваты, немцы і літоўцы.

У наступным годзе — III фестываль, штогодні.

Штучная мова эсперанта, створаная вялікім беластачанінам Людвікам Заменгофам, знайшла мільёны, дзесяткі мільёнаў прыхільнікаў ды энтузіястаў у цэлым свеце. Эсперанта не дае перавагі мове вялікай нацыі над мовамі малых. Добра служыць пачуццю роўнасці і братэрства, што асабліва актуальнае ў наш час.

У гэтым кантэксце беластоцкі эсперанцкі фестываль знаходзіць памалу дадатковую сімволіку: адбываецца ён на тэрыторыі таго ваяводства, дзе жывуць побач розныя нацыянальнасці — палякі з беларусамі, з літоўцамі, з украінцамі. Менавіта, інфармацыі ў такім духу моцна яшчэ нехапала ў час II фестывалю. Словам, не выкарыстаны быў жывы доказ дружбы і сяброўства на прыкладзе ўласным, беластоцкім. Гэта справы, якіх не павінны абмінуць арганізатары III фестывалю.

Фестывальная моладзь пазнаёмілася з дасягненнямі нашай Беласточчыны, з яе гаспадарчым, грамадскім ды культурным развіццём. Моладзі паказаны былі гераічныя традыцыі. Адбыўся літаратурны конкурс, на якім госці пазнаёміліся на мове эсперанта з творамі беластоцкіх аўтараў — з вершамі Гіцгера, Казанэцкага і Маславецкага, а таксама з празаічнымі творамі Эдварда Рэдлінскага. Фестывальныя госці прысутнічалі і на сустрэчы з Сакратам Яновічам.

На заканчэнне хочацца выказаць меркаванне, што і Беларускае таварыства магло б шмат у чым дапамагчы атракцыйнасці фестывалю.

(ся)




*Уступнае слова да ўдзельнікаў фестывалю чытае Тадэуш Бакун, прадстаўнік Ваяводскага аддзела культуры. Побач — мгр Валянціна Фішэр, беластоцкая настаўніца, якая з'яўляецца старшынёй Галоўнага праўлення Польскай эсперанцкай моладзі; і Ежы Ёка, сакратар Гарадскога камітэта партыі ў Беластоку.*

# ЖЫЦЦЁ, ЯКОЕ НЕ ВЫЙШЛА З МІНУЛАГА

У мінулае лета ў маленькай афганскай вёсцы ўсе здзівіліся. Радыё Афганістан перадало дзіўную і наводзячую перапалох вестку: «Амерыканцы высадзіліся на Месяцы», — сказаў хрыпаты голас у адзіным у вёсцы транзістарным радыёпрыёмнічку. Людзі пайшлі з гэтай весткай да мулы, вясковага святара і духоўнага правадыра.

Цяпер усе ў вёсцы спакойныя і шчаслівыя, бо ведаюць, што голас у радыёпрыёмнічку... махляваў. Мула сказаў, што немагчыма ўзабрацца на Месяц. Мула кажа, што зоркі знаходзяцца за сёмым небам, а адлегласць ад Зямлі да кожнага неба складае пяцьсот гадоў. Як жа можа чалавек так доўга жыць, каб дабрацца аж так высока?

Так думалі людзі не толькі ў гэтай вёсцы, але і ў тысячах іншых вёсак, рассыпаных па гэтай горнай краіне цэнтральнай Азіі.

Кароль Афганістана — сам прагрэсіўны — ведае, што рух наперад не можа адбыцца раптоўна. Мусіць ён дзейнічаць паволі ды асцярожна. Добра памятае лёс свайго каралеўскага папярэдніка, які сорак гадоў таму назад спрабаваў занадта хутка змяніць старыя звычаі — і прайграў, калі мулы і іншыя рэакцыйныя сілы ўзнялі рэвольту.

Цяперашні кароль выігрывае перад усім стратэгічную сітуацыю сваёй краіны. Афганістан — краіна нейтральная. Дзякуючы таму ўдалося ўжо атрымаць звыш паўтара мільярда долараў дапамогі на развіццё ад вялікіх дзяржаў зямнога шара.

У 1959 годзе кароль адчуў сябе настолькі моцна, што апавясціў афганскім жанчынам дазвол на тое, каб не насіць чадры, заслоны, якая хавае твар жанчыны ад вачэй мужчын. Кароль ужо не пабаяўся мулаў. Аднак, яшчэ нават у самай сталіцы краіны, у горадзе Кабуле, больш жанчын ходзіць у чадры, чым без яе.

Афганістан з'яўляецца краінай кантрабандыстаў і купцоў, здабывальнікаў і ахвяр — з'яўляўся сцежкай свету на працягу амаль пяці тысяч гадоў. Чынгіс-хан прыбыў туды, а ў сто гадоў пасля пайшоў яго следам Тамерлан, знішчаючы цывілізацыю каля чатырох мільёнаў людзей. Афганістан — гэта пераходы, бо такая яго стратэгічная сітуацыя. У вачах большасці назіральнікаў гэта краіна з'яўляецца найслабей развітай, найболей адсталай у цэлай Азіі. Ніколі не заваяваная каланіялістамі з'яўляецца яна прадметам гонару саміх афганцаў. Усё такі адчуванне цэнтральнай улады тут вельмі слабое — па сённяшні ніхто яшчэ не ведае, колькі насельніцтва налічвае Афганістан. Улада канчаецца, часта, ужо за прыгарадамі гарадоў ці мястэчак. Некалькі мільёнаў людзей вядзе вандроўны спосаб жыцця; называюцца яны «кучы». Кучы стаўляюць свае войлакавыя палаткі дзе хочуць і калі хочуць. Улады нават не прабуюць браць мужчын кучы на двухгадовую вайсковую службу. Згуртаванасць афганскага народа — гэта справа будучыні. Уводзячы дэмакратычныя формы ўлады кароль Афганістана намагаецца стварыць саўдзельніцтва. Няпростая гэта справа ў краіне, дзе ўмее чытаць ды пісаць усяго толькі кожны дваццаты, перш за ўсё ў гарадах.

Афганістан, як дзяржава, сфармаваўся ў 1747 годзе — і да 1963 года з'яўляўся дзяржавай паліцыйнага тыпу. Сем гадоў таму назад кароль абвясціў канстытуцыю, назначыў прэм'ера і загадаў каралеўскай сям'і трымацца здалёку ад палітыкі.

Аднак улада знаходзілася ў руках караля. Канстытуцыя ўсеяна мноствам заўваг ды засцярог, якія дазваляюць каралю ўстрымаць на нейкі час многія канстытуцыйныя пастановы. У Афганістане няма палітычных партый. Кароль неахвотна адносіцца да думкі дазволу на дзейнасць партый, баючыся, што не паспрыяюць яны кансалідацыі цэлага народа, які складаецца з розных плямёнаў ды народнасцяў: пуштунаў, узбекаў, і г.д.

У самой сталіцы, у горадзе Кабуле, відаць усяго парасткі сучаснага стылю жыцця. Кабул, высока ў гарах ля падножжа Гіндукуша, здаецца найбольш старажытнай сталіцай на азіяцкім кантыненце. Аслы, моцна нагружаныя рознымі таварамі, пераважна маюць першынство на вуліцах — перад самаходамі. Гандляры прадаюць прыправы і адзенне, раскладзенае на пяску. Кірмашы — гэта свет, які спыніўся на пяцьсот гадоў. Тут рэзнікі завешваюць тлустыя тушы авец і адрэзваюць слізкія жоўта-белыя кавалкі тлушчу для гатавання. У лужыне, у якой хлопчык палошча ногі, гандляр абмывае галоўку салату і ўручае яе пакупніку. Мухі ды пыл пакрываюць усё, збан ягурту на продаж аблеплены роем спасеных мух.

Адзінае, у чым Афганістан уваходзіць у сучасны свет, — гэта школьная сістэма. Яшчэ ў 1945 годзе не было ў гэтай краіне ніводнай вясковай школы. Сёлета налічваецца іх 1.800. У каля 230 школах вучацца дзяўчаты, што азначае пераламанне традыцыі, згодна з якой жанчына не павінна быць адукаванай.

Усё яшчэ шмат вёсак застаецца без школ, хаця ніхто не ведае, колькі вёсак, бо наогул невядома, колькі іх ёсць у Афганістане.

Супольнае навучанне хлопчыкаў і дзяўчынак у школах адбываецца толькі ў самым Кабуле і толькі ад шостага класа — і ва ўніверсітэце. Нельга так адразу выхапіць гэтых людзей з пятнаццатага стагоддзя ў дваццатае.

Галоўным прадуктам краіны з'яўляецца каракулавая воўна ад ягнят, якія не маюць яшчэ трох дзён. Каракул дае амаль трэцюю частку даходаў краіны з замежнага гандлю.

Афганістан няхутка стане сучаснай дзяржавай. (ся)

# НОВАЕ АБ ШАХАРАЗАДЗЕ

Усім вядома цудоўная гісторыя аб прыгажуні Шахаразадзе. Тысячу і адну ноч расказвала яна казкі свайму жорсткаму валадару і тым самым выратавала жыццё сабе і іншым дзяўчынам краіны. Як вядома, Шахаразада стала любімай жонкай валадара. Але ніхто не ведае, што было далей, як прайшла 1002-я ноч.

А справа мелася так.

І настала 1002-я ноч, і паклікаў падышах на шлюбнае ложа любімую жонку Шахаразаду і ўжо абняў яе прагнымі рукамі, але замест ласкі Шахаразада пачала расказваць па інерцыі, чарговую казку. Яна ўжо не магла спыніцца. Вялікая рэч — прывычка!

— Ведаеш ты, о валадар, гісторыю, якая здарылася з Аслом дзякуючы ўсемагутнаму Алаху? — спытала Шахаразада. — Дык вось. Калі Алах стварыў жывёлу, ён усім вызначыў занятці па іх здольнасцях. Салавей спяваў песні. Баран вырашчваў на сабе шэрсць і мяса на шашлык. Воўк ганяў барана, каб шашлык не быў занадта тлусты. І толькі адзін Асёл астаўся без занятку. Не было ў яго ніякіх здольнасцей, голас паскудны, мяса паршывае, зубы не вострыя. Задумаўся Алах.

— Што ты ўмееш рабіць? — спытаў ён Асла.

— Нічога не ўмею, — шчыра адказаў Асёл.

— Добра, — сказаў Алах, — калі нічога не ўмееш, будзеш загадчыкам.

— Як гэта загадчыкам? — спытаў Асёл. — Што трэба рабіць?

— Нічога не трэба рабіць, — сказаў Алах. — Жывёльны свет хай сабе жыве. А ты загадвай.

Падумаў Асёл, падумаў і пачаў загадваць. Барана прымусіў спяваць, з Ваўка стрыг шэрсць, а Салаўя пусціў на шашлык. Даведаўся аб гэтым Алах, страшна разгневаўся і накіраваў Асла на самую цяжкую працу.

З тых пор Асёл там і працуе. Працуе добрасумленна. Толькі часам раптам стане — і ні з месца. Гэта ён задумваецца: чаму ж яго знялі з кіраўнічай працы? Дык маглі б адразу не назначаць.

А потым Шахаразада працягвала:

— Хочаш, о валадар, я раскажу казку аб табе самім?

— Слухаю цябе! — сказаў падышах.

— Дык вось. Калі Алах стварыў мужчыну і жанчыну, ён зрабіў так, каб яны дапаўнялі адзін другога і ўдвое складалі адно цэлае. З тых пор кожны мужчына шукае ў жанчыне тое, чаго ў ім самім не хапае, і бывае шчаслівым толькі тады, калі знойдзе сваю недастаючую палавіну...

І тут Шахаразада змоўкла. А потым спытала:

— Ты шчаслівы са мною, о валадар?

— О так! — усклікнуў валадар.

— А лічыш ты мяне разумнай жанчынай?

— Найразумнейшай з найразумнейшых! — сказаў валадар.

— Значыць, Алах меў рацыю. Ты знайшоў ва мне тое, чаго ў табе не хапала.

— О цудоўная Шахаразада! Ты яшчэ такая маладая, а майстэрства твае так расце! Калі раней у цябе ў казках гучаў гумар, то цяпер я чую сатыру.

...З тых пор больш ніхто не чуў казак Шахаразады.

*М. Гіндзін, Г. Рабкін*



# НІЎКА



### ДОБРЫ СПОСАБ

Аднойчы Франсуа Рабле не мог выехаць з Ліёна ў Парыж — у яго не было грошай. Трохі памеркаваўшы, ён узяў тры папяровыя пакеты, насыпаў у іх цукру і зрабіў надпісы: «Атрута для караля», «Атрута для каралевы», «Атрута для дофіна». Пакеты паклаў на акно. Служка атэлю, прыбіраючы пакой Рабле, прачытала надпісы і расказала пра іх свайму гаспадару. Рабле затрымалі і пад канвоем адвезлі ў Парыж. Пракурор паказаў яму пакеты. Рабле, з'еўшы «атруту», расказаў яму пра сваю выдумку.

### ЖАНІХ

— Таварыш начальнік, дайце мне, калі ласка, два тыдні за свой кошт!

— Злітуйцеся! Дык вы ж толькі што вярнуліся з водпуску?

— Але я збіраюся жаніцца!

— Чаму ж вы не жаніліся ў часе водпуску?

— Госпадзі! Проста не хацеў псаваць сабе адпачынак!

### КОЖНАМУ СВАЁ

Блізкаўсходні шэйх, які падарожнічаў па Еўропе, пайшоў на балетнае прадстаўленне. Паглядзеўшы спектакль, ён спытаў дырэктара тэатра:

— Скажыце, калі ласка, а хто муж гэтага балета?

### ДОБРЫ

Міліцыянер сустрэў на вуліцы п'янага і спытаў яго, куды ён ідзе.

— Дамоў. Я вяртаюся з сустрэчы новага году!

— Хопіць, хопіць хлусіць! Новы год быў дзевяць месяцаў назад. Цяпер верасень.

— Ведаю, таму і спяшаю. Мая жонка ўжо пачала непакоіцца.

### У СУДЗЕ

Суддзя звяртаецца да сведкі:

— Вы пацвярджаеце, што яны жылі, як муж і жонка?

— О, не, ваша шанаванне, намнога лепш!

### ДРУЖНАЯ ПАРА

У згодзе жыццё пражылі
(столькі год!) —
Увесь час згаджаючыся...
на развод.

**Т. Фангарт**



*Без слоў.*

### ТУНЕЛЬ

З цягніка выходзіць маці з сямнаццацігадовай дачкой.

— Мама, — гаворыць дачка, — як цягнік увайшоў у тунель, дык той пан мяне пацалаваў.

— Толькі цяпер аб гэтым мне гаворыш?

— Так, бо я думала, што будзе больш тунеляў...

### НА ПЕРОНЕ

На пероне чыгуначнага вакзала стаіць сямейная пара. Муж, глядзячы на адыходзячы цягнік, гаворыць:

— Калі б ты так доўга не капалася, мы б не спазніліся на цягнік!

— Калі б ты мяне не тарапіў, нам не трэба было б так доўга чакаць наступнага.

### І ДВА

— Гэтаму вулкану пяць мільёнаў гадоў і два гады...

— А чаму менавіта два? — спытаў турыст.

— Калі я два гады назад паступіў сюды на работу, — адказаў экскурсавод, — мне сказалі, што яму пяць мільёнаў гадоў.



*Вытрымаюць ці не вытрымаюць тармазы?*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Кацярыны П. з Бельска, Мікалая і Яўгенія з Гайнаўскага павета, змяшчаем украінскую песню:*

## Посадила огірочки

Посадила огірочки
Близько над водою,
Поливала огірочки
Дрібною сльозою.

Ростіть, ростіть, огірочки,
В чотири листочки!..
Не бачила миленького
Аж три вечорочки!

На четвертий побачила,
Як череду гнала,
Не сказала «добривечір»,
Бо мати стояла.

Летить орел сизокрилий
Та й, летучи, краче:
«Перекажи дівчиноньці,
Що за мною плаче!

Нехай вона та й не плаче,
Бо я не журюся;
Нехай вона заміж іде,
А я оженюся!»

«Бодай тебе та й женила
Лихая година.
Ізв'язала мені руки
Малая дитина!»

### ХТО ЁН

У купэ першага класа ўваходзіць шатландзец з білетам у трэці. Кандуктар патрабуе даплаты. Пасажыр адмаўляецца. Разгневаны кандуктар бярэ яго чамадан, адчыняе дзверы і выкідае.

— Як вы можаце так рабіць, — крычыць шатландзец. — Мала таго, што патрабуеце ад мяне грошай, дык яшчэ выкідаеце праз акно майго сына?

### МАЛА ТАГО

Чалавек бяжыць за аўтобусам, набітым пасажырамі.

Аўтобус коціцца з узрастаючай хуткасцю.

— Эй, сябар! — смеючыся крычыць адзін з пасажыраў. — Наўрад ці табе ўдасца нас дагнаць.

— Аднак я павінен дагнаць, — адказвае задыханы чалавек. — Я шафёр гэтага аўтобуса!



*— Ужо два месяцы стаіць гэты вагон, што ў ім?*

*— Свежыя яйкі...*




### ФОТАБІЛЕТЫ

Каб спыніць перадачу чыгуначных білетаў ад адной асобы да другой, у Японіі вырашылі прадаваць білеты з фотакарткай пасажыра на адвароце. Пасажыр будзе сфатаграфаваны ў часе набыцця білета спецыяльным аўтаматам.

### ПРАЗ АДЛЕГЛАСЦЬ

Амерыканская газета «Інтэрнейшнл геральд трыбюн» паведаміла пра поспех іспанца Дзіяса. Ён устанавіў вышэйшае дасягненне ў свеце, пракаціўшы абруч на тысячу кіламетраў ад сваёй роднай вёскі Міерэс да Мадрыда і назад за 18 дзён.

### НА ЗЯМЛІ І Ў НЯБЁСАХ

Цікавая статыстыка апублікавана ў ЗША федэральнай адміністрацыяй па пытаннях авіяцыі. Пачынаючы з 1927 года і па 1968 год, г. зн. за 41 год, у выніку катастроф амерыканскіх грамадзянскіх самалётаў загінула 30 тысяч пасажыраў. Газета «Інтэрнейшнл геральд трыбюн», каменціруючы гэты факт, піша, што «гэтая лічба значна меншая, чым колькасць людзей, забітых у ЗША ў выніку аўтамабільных катастроф за гэты час — 1 мільён 470 тысяч 992 чалавекі».

### ЯК СУСТРЭЦЬ ГОСЦЯ

Гасціннасцю вызначаюцца амаль усе народы на зямлі, але кожны гасцінны па-свойму. Эскімосы на Алясцы сустракаюць госця аплявухай ды яшчэ, як кажуць, з «пляча», з усяго маху. Але госць не ў крыўдзе, ён ведае: гэта ўсяго толькі сяброўскае запрашэнне памерацца сіламі. І ён адразу ж дае здачы, а гаспадар падстаўляе шчаку. Абмен віншаваннямі на гэтым заканчваецца, і гаспадар запрашае госця ў пакой, прапануе пераапрануцца і пачаставацца.




*Чалавек з пастаянным адрасам: яго хата заўсёды з краю.*